**НАШ СУЧАСНІК у жыцці і мастацтве**

# ІСЦІ НЕПРАТОРАНЫМІ СЦЕЖКАМІ

Ігнат Дуброўскі — нарысіст і апавядальнік, не навічок у літаратуры. Сем год таму назад выйшаў зборнік яго апавяданняў «Радня». Тады ў друку даволі шырока разглядаліся творы пісьменніка. У цэлым станоўча ацэньваючы зборнік, крытыка звяртала ўвагу на шэраг недахопаў —схематызм паасобных твораў, боязь псіхалагічнага аналізу, падмена паказу апісаннем, мнагаслоўнасць, кампазіцыйная раскіданасць — і паказвала шляхі іх пазбаўлення —глыбейшае асэнсаванне жыцця, паўнейшае раскрыццё вобразаў, авалоданне багаццем народнай мовы.

І вось перад намі другі зборнік апавяданняў «Паўз самыя вокны», выдадзены нядаўна Дзяржаўным выдавецтвам БССР. Як і раней, у цэнтры ўвагі аўтара просты савецкі чалавек з яго радасцямі і клопатамі, з багаццем духоўнага свету і шчырым імкненнем служыць інтарэсам народа. Ён актыўна змагаецца з коснасцю, абывацельшчынай, бюракратызмам, кар'ерызмам і заўсёды перамагае. Месца гэтага чалавека на правым флангу будаўнікоў камунізма, у радах найбольш актыўных працаўнікоў. Праца — гэта і сэнс жыцця і крытэрый шчасця. Нездарма намеры Сцяпана адарваць Маю ад калектыву, пазбавіць працы («Вялікая Мядзведзіца») прывялі да разладу і да разбурэння сям'і. Непатрэбны Маі казачныя палацы, куды мілейшыя ёй блізкія сябры ў запыленым рыбацкім пасёлку, любімая праца, родны калектыў. Савецкі чалавек не можа адгарадзіцца сцяной ад свету, абмежавацца толькі рамкамі сваёй сям'і. Яму патрэбны прастор, шырыня, вольная магутныя крылы.

Тэматычна апавяданні зборніка падзяляюцца на два цыклы—апавяданні аб жыцці сучаснай калгаснай вёскі і апавяданні на так званую маральную тэму. Пісьменнік прыглядаецца да жыцця і імкнецца адлюстраваць тыя велізарныя змены, якія адбыліся за апошні час у вёсцы. Партыя паслала ў калгасы лепшых сваіх сыноў, бо правільны падбор і расстаноўку кіруючых кадраў на важнейшых участках калгаснай вытворчасці лічыла і лічыць адной з важнейшых умоў крутога ўздыму сельскай гаспадаркі. Пісьменнік імкнецца паказаць, як пад умелым кіраўніцтвам камуністаў непазнавальна мяняецца жыццё вёскі, калгасы хутка развіваюць усе галіны гаспадаркі, паляпшаецца дабрабыт калгаснікаў. У апавяданні, якое дало назву ўсяму зборніку, аўтар стварыў вобраз важака калгасных мас, загартаванага камуніста Глеба Званца, які ўвесь у дзеянні, заўсёды з народам, абапіраецца на масы і вядзе іх наперад, перамагаючы цяжкасці і перашкоды. Глеб умее падыйсці да чалавека, падабраць, як кажуць, ключык да сэрца кожнага. Людзі яму вераць і адзінадушна падтрымліваюць. Нават гультаяваты Макар думае, што Глеб «усё можа. Можа і людзей ад лёгкадумства стрымаць, можа і рабіць сам усё, за што ні возьмецца». Толькі ці варта было аўтару пасылаць Глеба да Макара параіцца, каго вылучыць кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета? Гэта надумана.

Цікава напісана апавяданне «Скасаваны агрэх». Яно вызначаецца праўдзівасцю сітуацый, абгрунтаванасцю ўчынкаў герояў, ненадуманасцю калізій. Малады калгаснік Якім, які толькі што скончыў дзесяцігодку, рашуча ўступае ў барацьбу з брыгадзірам — гультаём і п'яніцам Рыгорам. Апошні збіраецца нават выгнаць Якіма з калгаса. Канфлікт ускладняецца яшчэ тым, што Рыгор хоча нанесці ўдар свайму праціўніку з другога боку, а іменна: хоча ажаніць брыгадзіра трактарнай брыгады Данілу з каханай Якіма — Варай. Слабавольны бацька Вары дае згоду на гэты шлюб. Жыва расказваецца пра няўдалае сватанне Данілы. Даўно адыйшлі ў нябыт часы «бацькавай волі». Моладзь па-новаму будуе жыццё, сама з'яўляецца гаспадаром свайго лёсу. Сутыкненне характараў у апавяданні пададзена ў адпаведнасці з праўдай жыцця, а раскрываюцца характары ў дзеянні.

На жаль, іншыя апавяданні гэтага цыкла не вызначаюцца ні арыгінальнасцю сюжэтных ліній, ні вастрынёй канфлікту, ні глыбінёй псіхалагічных характарыстык, ні абгрунтаванасцю ўчынкаў герояў, якія вандруюць з твора ў твор і гавораць адно і тое ж. Сур'ёзную і глыбокую праблему спрабуе ўзняць аўтар у апавяданні «П'яўка». Ён паказвае, як чэрствыя, абыякавыя адносіны да людзей былога старшыні Раманчука адштурхнулі ад калгаса Параску Патапенка. Яна страціла веру ў людзей, пакінула калгасную працу і стала, як гавораць калгаснікі, п'яўкай на калгасным целе. Нямала намаганняў прыклаў новы старшыня Глушкевіч, каб выправіць памылкі свайго папярэдніка. Але вобразам старшыні пісьменнік нічога не дадаў да таго, што было сказана ў ранейшых апавяданнях, бо Глушкевіч як дзве кроплі вады падобен на Курловіча («Хата з краю»), а абодва яны — на Сушчыка са «Скасаванага агрэху». Выступаючы на пасяджэнні праўлення, Курловіч паўтарае тое, што на агульным сходзе гаварыў Глеб Званец. І разважанні іх — надзвычай правільныя — таксама гучаць ва унісон: «Глеб Іванавіч... думаў сам сабе: «Менш трэба за касу ды за сякеру брацца, а больш з людзьмі гаварыць»; «Аб гэтай начной размове доўга думаў Курловіч: «Часцей трэба гаварыць з людзьмі, вучыцца ў іх, зжывацца з імі».

Кідаецца ў вочы тэматычная аднастайнасць, стандартная распрацоўка сюжэтаў. У пяці апавяданнях з шасці дзеянне звязана з толькі што выбранымі старшынямі. Не ад жыцця, а ад загадзя зададзенай схемы ішоў аўтар у апавяданні «Горш за гіпертанію». Ужо з першых старонак чытач здагадваецца, што хворы Пазняк пойдзе добраахвотна старшынёй калгаса, а стары ўрач адобрыць і падтрымае яго рашэнне. На справаздачна-выбарчы сход калгаснікі запрашаюць толькі кіраўніка гародніна-кансервавага камбіната. Райком, па волі аўтара, нават не ведае пра такі сход, хаця ранейшы старшыня разваліў калгас. З апавядання атрымліваецца, што Пазняк і ўрач Доўнар амаль што кіруюць раёнам, а райкому толькі застаецца, мусіць, ставіць галачкі аб праведзеных мерапрыемствах.

Амаль ва ўсіх апавяданнях надзвычай лёгка вырашаюцца канфлікты. З'явіўся новы старшыня — і справы пайшлі, як па маслу. Нібы па ўзмаху чараўнічай палачкі настае парадак. Калгаснікам застаецца толькі гушкаць свайго старшыню, ад чаго яны ледзь-ледзь стрымліваюцца: «Курловіча пасля пасяджэння калгаснікі ледзь на руках не ўзяліся насіць». Хутка і проста перавыхоўваюцца гультаі і абібокі. Будуюць мост Дзям'ян і Тодар («Хата з краю»). Збіраецца на працу Параска (з ёй, праўда, крыху больш паваждаліся). Нашто ўжо заўзяты гультай і самагоншчык Ёсіп, але і ён разам з Глебам Званцам збянтэжана засыпае снегам брагу. Застаўся неперавыхаваным хіба толькі Рыгор Карачонак, але яму проста не хапіла часу выправіцца: прагнаўшы яго з брыгадзірства, аўтар паставіў кропку. Схематызм засланіў ад пісьменніка сапраўднае жыццё з яго няспынным развіццём і шматлікімі супярэчнасцямі. У апавяданні «Жывая слава» толькі пераказана некалькі біяграфій. Аўтар меў вялікі матэрыял, сам па сабе багаты і ўдзячны: барацьба за стварэнне і ўмацаванне калгасаў, культурная рэвалюцыя, партызанская барацьба ў гады Вялікай Айчыннай вайны, пасляваеннае будаўніцтва, але не справіўся з ім, збіўся на скарагаворку, аказаўся ў палоне фактаў.

Другі цыкл апавяданняў, прысвечаных галоўным чынам узаемаадносінам у маладой сям'і, атрымаўся больш цікавым і жыццёвым, хоць і не пазбаўленым істотных недахопаў. Вось апавяданне «Завязь». Завязь — гэта і вясновы росквіт прыроды і шчырае пачуццё першага кахання. «Прыйдзе, не загіне ваша завязь»,—супакойвае Мальвіну ўмудроны жыццёвым вопытам Каржакевіч. Са шчырасцю і сардэчнасцю, з цёплым гумарам расказвае пісьменнік пра ўзаемаадносіны маладога шафёра Ціхана і Мальвіны. Ціхану супрацьстаўляецца лавелас Мачулін, чалавек брудны і агідны. Зрабіўшы асновай сваіх паводзін хлусню і нахабства, ён імкнецца мераць сваёй меркай і іншых: і Ціхана, і Мальвіну, і Ксеню — маладую ўдаву з сумнымі задуменнымі вачыма. Але ніякія брудныя намёкі не азмрочаць чысціні высакародных пачуццяў. Каханне, сцвярджае аўтар, робіць лепшым чалавека, робіць больш чулым, мацнейшым, прыгажэйшым.

Праўда і ў гэтым апавяданні пісьменнік не засцярогся ад лыжкі дзёгцю. Навошта было сілу Ціханавага кахання правяраць джаламі пчол? А якая была патрэба прымушаць Ціхана прызнавацца ў каханні ў склепе-ледніку, ды яшчэ «прыпухлымі губамі скрыўленага рота»? Няўжо аўтар не адчуў недарэчнасці сваіх слоў? З-за павагі да сябе і да сваёй каханай не стаў бы Ціхан шамкаць скрыўленым ротам — «кахаю». Апрача таго, брыгаду Мальвіны аўтар паказвае руплівай, працавітай і адначасова, вядома, не жадаючы таго—безгаспадарлівай: хіба ж добрыя гаспадары спачатку садзяць малады сад, а пасля каля дрэўцаў забіваюць колле, каб папсаваць карэнне. Ды і Мачуліна ці варта было выводзіць яшчэ раз на старонках зборніка, хай сабе і пад прозвішчам Чыкілевіча.

У апавяданнях Дуброўскага маладыя сем'і часта праходзяць доўгі пакутлівы шлях роздуму, шукаюць і асэнсоўваюць свае памылкі і, нарэшце, знаходзяць сілы, каб іх выправіць. Каханне выпрабоўваецца часам. У бядзе чалавек не застаецца. На дапамогу ідуць чулыя савецкія людзі, і іх тактоўнае ўмяшанне дапамагае аднавіць сям'ю. Вельмі прыкра толькі, што і ў гэтым цыкле аўтар не здолеў пазбавіцца аднастайнасці мастацкіх прыёмаў.

Колькі ўжо было твораў пра перадавую жонку і адсталага мужа! Дуброўскі не стрымаўся і зноў паўтарыў збітую схему ў апавяданні «Разлад». Міля — перадавая звеннявая, затым камбайнерка. А яе муж Захар, шукаючы «чыстай» работы, стаў прыбіральшчыкам на ветпункце і разгульвае з мятлой, шуфлікам і чырвоным крыжам на рукаве. (Дарэчы, чаму чырвоным? Эмблема ветслужбы—сіні крыж). Чарэшце, Захар зразумеў памылку і ідзе да Мілі мірыцца, каб наладзіць сямейнае жыццё.

З апавядання ў апавяданне вандруюць паасобныя дэталі накшталт разбітай дзежкі. Ёсць цэлы шэраг моўных агрэхаў, фактычных недакладнасцей. У апавяданні «П'яўка» дзевяцікласнік называецца хлапчуком і нават размаўляе па-дзіцячаму: «Ма!» (мама). Пры абмалёўцы партрэта аўтар звычайна ідзе па шляху найменшага супраціўлення. Партрэты адмоўных герояў звычайна падаюцца ў карыкатурным плане. Вось Рыгор Карачонак: «...у яго быў круглы савіны твар, калматая галава, а бровы старчма двума рожкамі віліся ўгару». Чорт, дый толькі!

Адным словам, удача спадарожнічае пісьменніку тады, калі ён трымаецца праўды жыцця, ідзе непраторанымі сцежкамі. На жаль, І. Дуброўскі яшчэ часта трапляе ў палон схематызму.

**Г. ЮРЧАНКА.**

ЧАСОПІСЫ У ЧЭРВЕНІ

## «ПОЛЫМЯ»

Нумар адкрываецца перадавым артыкулам «Мудрае слова партыі». У часопісе друкуецца працяг рамана А. Кулакоўскага «Сустрэчы на ростанях», п'еса П. Васілеўскага «Любоў, Надзея, Вера...».

Апублікавана нізка вершаў П. Панчанкі пра Афрыку, вершы Р. Барадуліна, Р. Няхая.

Пад рубрыкай «Публіцыстыка» змешчаны франтавыя нататкі Я. Міско «Па ваенных дарогах». «Пра сябе» — так назваў свае ўспаміны мастак Заір Азгур.

Да дваццаць пятай гадавіны з дня смерці Максіма Горкага друкуецца падборка матэрыялаў: «Гімн чалавеку» І. Шамякіна, «Недачытаная кніга» В. Быкава, «Горкі— гэта роздум» В. Адамчыка.

Творчай гісторыі «Новай зямлі» Я. Коласа прысвечан артыкул М. Мушынскага.

Пад агульным загалоўкам «Слова па шчырасці» рэдакцыя друкуе выступленні ўкраінскіх пісьменнікаў Ул. Дабравольскага, Ю. Барабаша, В. Раманенкі, В. Качэўскага, Ул. Бругена. Гэтая падборка падрыхтавана і даслана ў рэдакцыю «Полымя» супрацоўнікамі харкаўскага часопіса «Прапор» у абмен на выступленні беларускіх пісьменнікаў, прысвечаныя аналізу творчасці ўкраінскіх сяброў.

## Прэміі за лепшыя п'есы

Падведзены вынікі рэспубліканскага конкурсу на лепшую сучасную п'есу для дзяцей і юнацтва, які быў аб'яўлены ў гонар саракагоддзя камсамола Беларусі. Пасля таго, як былі разгледжаны і абмеркаваны прысланыя на конкурс драматычныя творы, журы прысудзіла трэцюю прэмію І. Козелу за п'есу «Келіх кахання» («У нас у Канчанах»). Заахвочвальныя прэміі атрымалі М. Сергіевіч і В. Хомчанка — аўтары камедыі «І смех і слёзы»; С. Гурыч — аўтар п'есы «Танежыцкія дзяўчаты». Усе гэтыя творы прысвечаны працаўнікам калгаснай вёскі, іх жыццю і побыту, каханню і дружбе.

Заахвочвальнай прэміяй узнагароджана таксама І. Маісеева, якая напісала для тэатра лялек п'есу-казку «Лянівае царства ці чараўнічы аловак».

# ПЕРШАЯ СПРОБА ТВОРЧЫХ СІЛ

У харэаграфіі, бадай, больш, чым у якім-небудзь іншым відзе мастацтва, поспехі выканаўцаў залежаць ад таго, як іх рыхтуюць у спецыяльнай навучальнай установе. Недахопы ў вучэбна-метадычным працэсе, у рэпетыцыях, адсутнасць патрабавальнасці ў трэніровачных класах — усё гэта потым адмоўна адбіваецца на выступленнях маладых артыстаў на сцэне. Яркім пацверджаннем гэтага з'явіўся канцэрт навучэнцаў Беларускага харэаграфічнага вучылішча.

Самую арганізацыю такога канцэрта на вялікай сцэне Тэатра оперы і балета варта толькі вітаць. Дзякуючы яму грамадскасць атрымала магчымасць пазнаёміцца з моладдзю, якая ў бліжэйшыя гады ўвальецца ў балетную прафесіянальную трупу.

Выступленне на сцэне вучняў амаль усіх класаў вучылішча—ад першага да выпускнога — паказала вынікі падрыхтоўкі будучых артыстаў беларускага балета.

Што ж мы ўбачылі?

Не ўсе выхаванцы старэйшых класаў выглядалі добра падрыхтаванымі. У выпускнікоў часам адсутнічалі строгасць, закончанасць танца. Нават у лепшых вучняў можна было бачыць неахайнае, а іншы раз і няправільнае выкананне танцавальных рухаў. У першую чаргу гэта датычыць да паветраных і «партэрных» кручэнняў, «заносак» у выпускнікоў і пластыкі рухаў рук у выпускніц.

Недахопы гавораць пра тое, што праграма ў старэйшых класах, асабліва ў мужчынскім, засвоена неглыбока. Выкладанню класічнага танца, напэўна, не заўсёды аддавалася дастаткова ўвагі.

А танец жа ў выпускнікоў павінен вызначацца прыгажосцю і строгасцю формы, выразнасцю выканання. У гэтых адносінах парадавала на канцэрце вучаніца VI класа Наташа Карпенка (педагог Н. Младзінская), якая ў добрай манеры, артыстычна выканала адажыо з балета «Баядэрка» і «Гавот» (музыка Люлі). Ужо цяпер Н. Карпенка па ўзроўню сваёй падрыхтоўкі перавышае многіх выпускнікоў. Але гэтыя поспехі не павінны супакойваць вучаніцу, ёй варта заўсёды памятаць, што толькі пры строгай патрабавальнасці да сябе можна стаць сапраўднай балерынай.

Добрае ўражанне пакінулі і іншыя выхаванцы Н. Младзінскай— вучні IV класа Тамара Рэдчыц, Людміла Бжазоўская, Людміла Матусевіч, якія выканалі варыяцыі фей з балета «Спячая прыгажуня».

Вельмі прыкметная розніца ва ўзроўні падрыхтоўкі і манеры выканання паміж асобнымі класамі вучылішча, дзе выкладаюць розныя педагогі. Нярэдка ў вучняў заўважаюцца тыя ж выканаўчыя недахопы, якія ўласцівы іх настаўніку. У вучылішчы ж павінен быць адзіны метад выкладання, адзіны крытэрый ацэнкі поспехаў вучняў і работы педагога.

Вядома, было б няправільна ўсю адказнасць за няўдалую падрыхтоўку выпускнікоў ускладаць на адных педагогаў. У некаторых выпадках выхавацель не мае сілы дамагчыся добрых вынікаў ад свайго вучня, бо фізічныя дадзеныя ў яго бываюць вельмі слабыя. Да таго ж нават у дзяцей з моцным здароўем ва ўзросце 13—14 год адбываюцца змены ў арганізме, якія вядуць іншы раз да дэфармацыі фігуры. Вось чаму такія вучні проста не могуць авалодаць складанай праграмай, і з вучылішча часта выходзяць артысты, якія не могуць працаваць на прафесіянальнай сцэне.

Трэба з большай патрабавальнасцю падыходзіць да падбору танцавальных нумароў для выступленняў вучняў, улічваючы іх індывідуальныя асаблівасці і ступень падрыхтоўкі. Многія ж нумары ў выпускнікоў яўна не адпавядалі іх выканаўчым магчымасцям. Так, у «Па-дэ-труа» з «Лебядзінага возера» рухі ў дзяцей былі напружаныя, скаваныя.

Больш удала выступілі выпускнікі Нэля Андронава (педагог Л. Семілетнікава) і Валерый Дудкевіч (педагог В. Давыдаў). Н. Андронава мае добры выгляд, але танцаўшчыцы трэба старанна працаваць над удасканаленнем тэхнікі. Лёгкі скачок, мяккасць рухаў прадэманстраваў у варыяцыі з балета «Жызель» В. Дудкевіч.

Тэмпераментна танцуе выпускнік Леанід Палякоўскі. Але нам здаецца, што педагог дапусціў памылку, даручыўшы яму выконваць некалькі складаных танцаў.

Праграма канцэрта вучылішча была шырокай, але крыху аднастайнай. У ёй пераважалі варыяцыі, па-дэ-дэ, адажыо—урыўкі з класічных балетаў. А вось характарнаму танцу было адведзена нязначнае месца. У асноўным выканаўцамі характарных танцаў з'явіліся вучні «паскоранага» класа (педагог А. Шылёнак).

Выклікае пярэчанне ўключэнне ў праграму канцэрта «класічнага экзерсіса» — тых рухаў, якія штодзённа выконваюцца артыстамі балета на ўроках трэнажу. Жаданне паказаць школьную падрыхтоўку артыста балета заслугоўвае ўхвалення. Але перад гэтым варта было хоць бы коратка растлумачыць, што азначае «класічны экзерсіс», расказаць пра спецыфіку майстэрства артыстаў балета. У большасці ж гледачоў пасля «класічнага экзерсіса» засталося здзіўленне: ці гэта даніна абстрактнаму балету Захаду ці проста гімнастычныя практыкаванні.

Канцэрт вучылішча побач з поспехамі асобных вучняў раскрыў многія недахопы ў падрыхтоўцы будучых артыстаў балета. Мастацкаму кіраўніцтву харэаграфічнага вучылішча трэба ўважліва сачыць за выкладаннем класічнага і характарнага танца, акцёрскага майстэрства, з тым, каб выпускнікі вучылішча сталі ў будучым сапраўднымі майстрамі танца.

**А. КАЛЯДЭНКА,**
**аспірант Акадэміі навук БССР.**

**ГЕРОІ нашых дзён**

# ЧАЛАВЕК ЗА ЎСЁ Ў АДКАЗЕ

Поезд прагрукатаў усю кароткую майскую ноч, і ў вагон хлынула чаромхавая раніца. Пасажыры па адным пачалі прачынацца. Пажылая жанчына з бледным тварам павольна прайшла ў канец вагона. У руцэ ў яе была мыльніца, цераз плячо перакінуты ручнік. Узяўшыся за ручку дзвярэй, яна слаба ўскрыкнула, пахіснулася і пачала падаць. Напэўна ў яе быў сардэчны прыступ.

Я і стары-пенсіянер, які аказаўся ў гэты момант паблізу, падхапілі хворую пад рукі.

— Таварыш, паклічце правадніцу... Хутчэй, жанчыне млосна!

Чалавек, да якога звярнуліся з такой просьбай, з абыякавай цікаўнасцю паглядзеў у наш бок, перагнаў папяросу з аднаго кутка рота ў другі, спакойна сказаў:

— Гэта мяне не датычыць.

— Падлюга! — кінуў яму стары. — Таварыш, — сказаў ён мне, — пабудзьце з ёю, а я каго-небудзь паклічу на дапамогу.

Праз колькі хвілін поезд спыніўся на станцыі, і мы даставілі жанчыну ў медпункт.

Чалавек, якога «гэта не датычыла», на няшчасце, аказаўся маім суседам па купэ. Заваліўшы столік прадуктамі, ён снедаў. Наеўшыся, выцер тлустыя рукі ручніком, які ўваходзіў у спальны камплект, з асалодаю ікнуў і, страсянуўшы карабок з костачкамі даміно, бадзёра прапанаваў:

— Заб'ём?

Яму ніхто не адказаў.

Так у маўчанні даехалі да Гродна. У гарадскім парку я купіў у кіёску нумар газеты «Гродзенская праўда», сеў на лаўку і пачаў чытаць.

У газеце пісалася пра людзей, якіх датычыць усё, што адбываецца на свеце. Калгасны кукурузавод радуецца поспеху шкловыдзімальшчыка. Яны не сустракаліся, можа, і не сустрэнуцца ніколі, але абодва адчуваюць сябе членамі адной вялікай працоўнай сям'і. Недзе пакрыўдзілі чалавека, і дзесяткі людзей спяшаюцца за яго заступіцца. Усім ёсць справа да падзей на далёкай Кубе і ў спякотным В'етнаме...

Увагу маю прыцягнула карэспандэнцыя «Чалавек не для сябе нараджаецца». Яе падпісаў старшыня фабкома Гродзенскай швейнай фабрыкі С. Карпач. У карэспандэнцыі скупа і разам з тым усхвалявана расказвалася пра дзяўчыну з прыгожай душой Ірыну Казук і, між іншым, пра тое, як Ірына сустрэла сёлетні год.

... Дзяўчына бегла па снежнай вуліцы. Яна вельмі спяшалася. У пакоі, дзе пахла хвояй навагодняй ёлкі, яе чакалі сябры. Яны хваляваліся: «Нешта доўга няма нашай Ірыны». Звінеў посуд, які расстаўлялі на беласнежны абрус, ззяла прыгажуня ёлка, кружылася пласцінка радыёлы, і грудны голас спявачкі спяваў пра каханне і шчасце... Стрэлка гадзінніка набліжалася да дванаццаці, а Ірыны ўсё не было.

Яна падыходзіла ўжо да дому, як раптам на дарозе сустрэла жанчыну з дзіцем. Пры святле вулічнага ліхтара дзяўчына ўгледзела яе стомлены, мокры ад слёз твар.

— Што з вамі?

— Дзіця маё... Бальніцу шукаю...

Ірына ўзяла з рук жанчыны дзіця.

— Ідзіце за мной. Не хвалюйцеся, усё будзе добра.

Ірына пабегла, стараючыся не паслізнуцца. Баючыся, каб не зрабіць балюча малому, яна ўвесь час трымала яго на выцягнутых руках. Ірына задыхалася, сэрца моцна калацілася, здавалася, вось-вось выскачыць з грудзей. Адна вуліца... Другая... Трэцяя... Паварот... Яшчэ паварот... Вось нарэшце і бальніца!

— Калі б вы спазніліся на дзве-тры хвіліны, ужо было б позна,— сказаў Ірыне ўрач.

Ірына глянула на гадзіннік. Ішлі першыя хвіліны 1961 года.

«За яе дваццацідвухгадовае жыццё, — пісаў аўтар карэспандэнцыі, — ніводзін яшчэ год не пачынаўся так хораша. Яна ж выратавала жыццё чалавеку».

Я паклаў газету ў кішэню і пайшоў шукаць швейную фабрыку, дзе працуе Ірына Казук.

На фабрыцы быў абедзенны перапынак. На двары, залітым сонцам, пышна расцвітаў бэз. Дзяўчаты ў спартыўных касцюмах трэніраваліся ў бегу на кароткія дыстанцыі. Я запыніў адну з іх.

— Памажыце мне знайсці Ірыну Казук.

— Іра, сюды, — закрычала яна, — цябе пытаюць.

Падышла стройная русавалосая дзяўчына, дапытліва паглядзела на мяне сваімі густа-сінімі, крыху насмешлівымі вачыма. Я адрэкамендаваўся і папрасіў яе забавіцца на невялічкі час для размовы. Адказ Ірыны мяне засмуціў.

— Не, — сказала яна цвёрда,— гэтае не патрэбна, я ж не Гагарына, каб пра мяне пісалі ў газетах.

Мне давялося пайсці на нявінную хітрасць, і я зманіў, што ў такім выпадку не выканаю задання рэдакцыі, у мяне могуць быць непрыемнасці.

— Вось дык штука, — засмяялася Ірына. — Хочаш не хочаш, а даводзецца мне вас выручыць. Добра, няхай будзе так... Толькі дамовімся: калі будзеце пісаць, пастарайцеся не вельмі хваліць.

Потым мы хадзілі па зялёных, утульных вуліцах Гродна. Ірына расказвала, але не пра сябе, а пра хлопца Баляслава.

* * *

— Бяда ніколі не ходзіць адна, — гаварыла старая калгасніца Яніна Ігнатаўна.

Нядаўна памёр гаспадар дома, муж Яніны Ігнатаўны Валяр'ян Козел. Не паспелі справіць памінкі, як у сына — Баляслава абвастрыўся раматус, і хлопец не мог устаць з ложка.

І вось з выгляду дужы, учора яшчэ такі жыццярадасны, поўны энергіі чалавек ляжыць цэлымі днямі прыкаваны да ложка.

Яму б кідаць стагі сена, біць цяжкім молатам па малінава-чырвоным жалезе, з якога пырскае агонь. А ён не можа нават прынесці вядра вады з калодзежа. Баляслаў глядзіць на свае рукі. З далоняў пачынаюць ужо знікаць мазалі. Цяпер гэтыя рукі бяссільна ляжаць на коўдры. Яны нікому не патрэбны—ні яму, Баляславу, ні людзям.

Аднойчы Баляслава наведалі яго добрыя знаёмыя.

— Не сумуй,—казалі яны,— вось паляжыш трохі, і ўсю тваю хваробу як рукой зніме.

Баляслава расчуліла іх спачуванне. Але раптам ён падумаў аб тым, што вось зараз яны пойдуць туды, дзе грае музыка, дзе спяваюць, смяюцца, радуюцца жыццю здаровыя, дужыя людзі. А ён, Баляслаў, застанецца тут ляжаць пластам. У роце стала салона, ён адвярнуўся, уткнуў твар у падушку, і госці ўбачылі, як уздрыгваюць яго плечы.

«Што рабіць? Дзе шукаць выйсце са становішча?» — думаў Баляслаў і вырашыў, нарэшце, звярнуцца ў газету. У пісьме ў рэдакцыю газеты «Знамя юности» ён напісаў пра сваю роспач.

Лёс Баляслава усхваляваў многіх людзей. Паштальён усё часцей пачаў заходзіць да хворага. «У цябе перапіска, як у дэпутата», — жартаваў ён і клаў на стол пісьмы — цэлы стос пісьмаў. З Мінска, Віцебска, Гродна, Оршы, Асіповіч, з многіх іншых гарадоў, пасёлкаў, вёсак Беларусі. Незнаёмыя, але такія блізкія людзі спяшаліся прыйсці на дапамогу Баляславу, папракалі за маладушнасць.

І вось аднойчы прыйшло пісьмо, якое асабліва зацікавіла Баляслава. Падпісала яго работніца Гродзенскай швейнай фабрыкі Ірына Казук. Ад густа спісаных лістоў, выдраных з вучнёўскага сшытка, на хлопца нібы павеяла цёплым і чыстым дзявочым дыханнем. Так могуць пісаць толькі брату ці вельмі блізкаму сябру. А ён жа ніколі не сустракаўся з гэтай дзяўчынай! «Якой бы ні была цяжкай барацьба за шчасце, за вяртанне ў строй, змагацца за гэта трэба таксама настойліва, як і цвёрда верыць у перамогу». Баляслаў зноў і зноў паўтараў сам сабе гэтыя цудоўныя словы з пісьма і адчуваў, як разам з імі ўліваюцца ў яго сіла і мужнасць.

Потым пісьмы ад Ірыны пачалі прыходзіць амаль кожны дзень. «Я ведаю, табе цяжка. Але ты думай пра тое, што ты чалавек. Ні на хвіліну не забывайся пра гэта! Чалавек усё можа, калі ён не адзін. Паглядзі, у што ператварыў ён калісьці змрочную і пустынную зямлю. Ён зрабіў яе квітнеючым садам, пабудаваў на ёй палацы, праклаў чыгункі, правёў тунелі праз горы. Ён, Чалавек, будуе цяпер камунізм, дзе ўсім будзе дастаткова і хлеба і руж. Пакуль перашкоды непазбежныя, чалавек павінен умець пераадольваць іх і ісці ўвесь час «наперад і вышэй», як сказана ў Горкага. У гэтым, напэўна, і ёсць сэнс жыцця. А ты, Баляслаў, даруй мне, ледзь было не страціў гэты сэнс. Чалавек не мае права ўпадаць у роспач, якія б чорныя хмары ні згушчаліся над яго галавой. Вышэй галаву, памятай, што ты Чалавек!» Гэтае слова Чалавек, якое шмат разоў паўтаралася ў пісьмах Ірыны, вярнула Баляславу годнасць Чалавека, які ўсе перашкоды можа пераадолець.

Аднойчы у пакой, дзе ляжаў Баляслаў, увайшла незнаёмая, прыгожая дзяўчына.

— Добры дзень, Баляслаў! Я— Ірына.

— Ірына! — Баляслаў ускрыкнуў ад радасці і шчасця. Ён на момант забыўся і пра сваю хваробу і пра адзіноцтва. Дык вось яна якая, гэтая дзяўчына! Што ж прымусіла яе, такую кволую і пяшчотную, ахвяраваць сваім выхадным днём, адпачынкам, трэсціся амаль сто кіламетраў у машыне па калдобістай пыльнай дарозе, каб наведаць чалавека, які не быў ёй ні братам, ні каханым, ні проста знаёмым чалавекам? Нібы адказваючы на гэтае нявыказанае пытанне, Ірына сказала:

— Я прыехала пагаварыць з табою, Баляслаў. Сур'ёзна пагаварыць. Я думаю, што становішча ў цябе не такое безнадзейнае, як табе часам здаецца. Калі б ты добра падумаў, дык прыгадаў бы, што ёсць такая старажытная навука — медыцына. Ёсць у нас нямала выдатных урачоў. Вось пабачыш, мы яшчэ з табою будзем танцаваць!

Забягаючы наперад, павінен сказаць, што гэта прадказанне спраўдзілася. Ірына і Баляслаў танцавалі ў калгасным клубе. Але здарылася гэта значна пазней.

Дзяўчына прыехала ў Гродна і

Ірына КАЗУК.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

РАДКІ З ПІСЕМ

## Справы і клопаты пачынаючых

Больш 40 удзельнікаў літаратурнага аб'яднання пры Мінскай вышэйшай партыйнай школе абмяркоўваюць новыя творы пачынаючых паэтаў і празаікаў, наладжваюць літаратурныя вечары, конкурсы, віктарыны, выпускаюць рукапісны часопіс «Звязда». У часопісе змяшчаюцца творы слухачоў школы, ухваленыя на пасяджэннях аб'яднання. Апошні нумар часопіса знаёміць чытачоў з вершамі Ул. Фаміна, М. Чапрасава, Ул. Яфімовіча, А. Вербавікова, М. Грышчанкі, прозай В. Семянкевіча, І. Мяцько, А. Белавуса, І. Тартоўскага і іншых.

Работай аб'яднання кіруюць выкладчыкі школы Д. Палітыка і І. Бас.

**П. ШАУЦОУ.**

Пры рэдакцыі Докшыцкай раённай газеты «Ленінская праўда» літаратурнае аб'яднанне існуе ўжо другі год. Яго актыў — пачынаючыя пісьменнікі Я. Лукашэвіч, Э. Зубрыцкі, А. Сас, С. Суднікович, І. Стадольнік. На пасяджэнні аб'яднання запрашаюцца пісьменнікі з Віцебска і Мінска. Пабывалі тут паэт А Русак і кампазітар Г. Вагнер. Удзельнікі аб'яднання выступаюць з чытаннем сваіх лепшых твораў перад шырокай аўдыторыяй — у Доме культуры.

**А. МАКАРЭВІЧ.**

На старонках глускай раённай газеты «Сацыялістычная праца» вельмі рэдка можна сустрэць верш, апавяданне, нарыс, падпісаныя прозвішчамі мясцовых аўтараў. І гэта не таму, што ў раёне мала пачынаючых пісьменнікаў, наадварот — іх многа, некаторыя з іх змяшчалі свае творы ў рэспубліканскім і абласным друку. Вінавата рэдакцыя газеты, якая няўважліва ставіцца да пачынаючых аўтараў, не дапамагае ім.

Ці не пра гэта сведчыць хоцьбы тое, што за тры апошнія гады ў газеце змешчана толькі дзве літаратурныя старонкі?..

**В. ЛАЎРЫНОВІЧ.**

ПА ГАРАДАХ БЕЛАРУСІ.

Новы Дом культуры ў г. Высокае Брэсцкай вобласці.

Фота М. Рубінштэйна.

## У САЮЗЕ ПІСЬМЕННІКАЎ

Адбылося пасяджэнне прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, на якім абмяркоўваўся тэматычны план выдання мастацкай літаратуры на 1962 г. і план рэдакцыйна-падрыхтоўчай работы. А. Вялюгін, А. Зарыцкі, С. Майхровіч, С. Александровіч, Я. Скрыган і іншыя пісьменнікі выказалі свае думкі аб плане.

Затым групе беларускіх пісьменнікаў былі ўручаны граматы і значкі ЦК прафсаюза работнікаў культуры СССР і Беларускай ваеннай акругі за ваенна-шэфскую работу.

Па прыкладу кіеўскіх пісьменнікаў і работнікаў кнігагандлю пры Цэнтральным кніжным магазіне ў Мінску створаны савет клуба аўтара і пакупніка. Савет будзе штомесячна наладжваць у магазіне літаратурныя сустрэчы. У Савет клуба выбраны М. Аўрамчык, П. Пестрак, А. Русецкі, М. Татур.

У члены Саюза пісьменнікаў прыняты Зм. Бугаёў, Г. Бураўкін, Ю. Канэ, А. Гутковіч, Л. Прокша, К. Цвірка, Ул. Варно, К. Шнэй-Красікаў.

